# УВОДЗІНЫ

Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці (USAID) прадстаўляе вам 19-е выданне *Індэкса ўстойлівасці арганізацый грамадзянскай супольнасці (АГС) краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Еўразіі* за 2015 год.

Сёлетні *Індэкс* дае справаздачу пра АГС у 24 краінах рэгіёну, ад Балтыі на поўначы да Каўказа на поўдні, а таксама краін Вышаградскай групы на захадзе да Расіі, якая сягае на ўсход да Ціхага акіяна.[1] *Індэкс* разглядае слабыя і моцныя бакі ўстойлівасці АГС па сямі ключавых кампанентах, або "параметрах": прававы асяродак, арганізацыйны патэнцыял, фінансавая ўстойлівасць, адвакатаванне, аказанне паслугаў, інфраструктура і грамадскі імідж.

Метадалогія *Індэкса* абапіраецца на практыкаў і даследчыкаў АГС, якія ў кожнай краіне ўтвараюць групу экспертаў, каб ацаніць і ранжыраваць параметры ўстойлівасці АГС цягам года. Панэль экспертаў узгадняе балы па кожным параметры па шкале, якая вар'іруецца ад 1 (развітая ўстойлівасць) да 7 (слабая ўстойлівасць). З выстаўленых балаў выводзіцца сярэдняя адзнака, якая і выстаўляецца для сектара АГС ў кожнай краіне. Рэдакцыйная калегія, які складаецца з тэхнічных і рэгіянальных экспертаў, аналізуе балы кожнай панэлі і суправаджальную апісальную справаздачу – гэта дазваляе захоўваць аднастайны падыход і стандарты для параўнання розных краін. Больш падрабязная інфармацыя пра метадалогію, якая выкарыстоўваецца для разліку балаў і складання суправаджальных тэкставых справаздач можна знайсці ў Дадатку да поўнай версіі Індэкса на англійскай мове.

*Індэкс* уяўляе сабой карысную крыніцу інфармацыі для АГС, урадаў, донараў, акадэмічнай супольнасці і тых, хто імкнецца лепш зразумець і адсочваць ключавыя аспекты ўстойлівасці сектара АГС. *Індэкс устойлівасці АГС краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Еўразіі* дапаўняе аналагічныя публікацыі па іншых рэгіёнах: *Індэкс устойлівасці АГС краін суб-Сахарнай Афрыкі* - 26 краін; *Індэкс устойлівасці АГС краін Блізкага Ўсходу і Паўночнай Афрыкі* - 7

[1] Просім звярнуць увагу, што ў звязку з абмежаванымі рэсурсамі сёлетні Індэкс не аналізуе пяць краін Цэнтральнай Азіі.

краін; *Індэкс устойлівасці АГС краін Азіі* - 7 краін; а таксама *Індэкс устойлівасці АГС Афганістана* і *Індэкс устойлівасці АГС Пакістана*, якія праводзяцца пры падтрымцы Фонду Ага-хана. Усе выданні *Індэкса ўстойлівасці АГС* даводзяць агульную колькасць краін, даследаваных у 2015 годзе, да больш чым сямідзесяці.

Выданне такога тыпу не было б магчымым без унёску шматлікіх людзей і арганізацый. Асаблівая падзяка партнёрам-выканаўцам, якія адыгралі вырашальную ролю ў фасілітацыі экспертных панэляў і напісання краінавых справаздач. Вялікая падзяка прадстаўнікам АГС і экспертам, партнёрам USAID і міжнародным донарам, якія прымалі ўдзел у экспертных панэлях у кожнай краіне. Менавіта іх унёсак ведамі, разуменнем, ідэямі і назіраннямі з’яўляецца падмуркам Індэкса.

# АГЛЯД УСТОЙЛІВАСЦІ АГС КРАІН ЦЭНТРАЛЬНАЙ І УСХОДЯЙ ЕЎРОПЫ І ЕЎРАЗІІ

Арганізацыі грамадзянскай супольнасці (АГС) у 24 краінах, якія аналізуе *Індэкс устойлівасці арганізацый грамадзянскай супольнасці краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Еўразіі*, працягваюць дэманстраваць разнастайнасць, ахопліваючы ўвесь спектр устойлівасці. У шэрагу краін грамадзянская супольнасць сутыкаецца з адкатам ад дэмакратыі, аднак АГС усё больш актыўна адрэагавалі на складаныя сітуацыі, такія як міграцыйны крызіс і прасоўванне праеўрапейскіх рэформ.

На адным баку знаходзяцца Эстонія і Польшча, якія маюць найвышэйшы ўзровень устойлівасці АГС не толькі ў сваім рэгіёне, але і сярод астатніх краін, якія аналізуюцца *Індэксам устойлівасці АГС* па ўсім свеце. АГС у гэтых дзвюх краінах, гэтаксама як у большасці іншых краін Балтыі і Вышаградскай групы, дзейнічаюць у спрыяльным прававым асяродку, забяспечаныя адпаведнай інфраструктурай, маюць станоўчы грамадскі імідж і развіты арганізацыйны патэнцыял, а таксама моцныя ў адвакатаванні і аказанні паслугаў. І хаця фінансавая ўстойлівасць застаецца адным з самых слабых параметраў нават у гэтых краінах, АГС Эстоніі і Польшчы маюць доступ да большай разнастайнасці крыніц фінансавання, у тым ліку дзяржаўных грантаў і кантрактаў, а таксама прыватнай і карпаратыўнай дабрачыннасці.

На іншым баку знаходзяцца Беларусь і Азербайджан, дзе АГС дзейнічаюць у надзвычай абмежавальным прававым асяродку, практычна не маюць прасторы для незалежнага адвакатавання, што дае на выніку недаверлівае ўспрыманне сектара з боку грамадскасці. АГС у гэтых краінах маюць абмежаваны доступ да фінансавання – і замежнага, і мясцовага – і слабы арганізацыйны патэнцыял. Акрамя гэтых краін у Расіі рэзка пагоршаныя ўмовы для грамадзянскай супольнасці ставяць расійскія АГС ва ўсё больш рызыкоўную сітуацыю, блізкую да Беларусі і Азербайджана.

Памеры грамадскага сектара ў 24 краінах Індэкса адрозніваюцца не менш, чым устойлівасць сектара. У Расіі зарэгістраваныя больш за 200 000 АГС, а ў Беларусі дзейнічаюць толькі 2 665 такіх АГС.

2015 год у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе і Еўразіі быў неспакойным у палітычнай і эканамічнай сферах. Палітычная нестабільнасць асабліва пераважала ў краінах Паўднёва-Усходняй Еўропы. Ніжэй пададзеныя прыклады, як АГС па-рознаму рэагавалі на развіццё падзей і як сітуацыя паўплывала на АГС.

У Македоніі кааліцыя з некалькіх апазіцыйных партый большую частку 2015 года байкатавала парламент, пратэстуючы супраць фальсіфікацый у часе прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў у красавіку 2014 года. Палітычны крызіс паглыбіўся, калі апазіцыя прадставіла доказы масавага незаконнага праслухоўвання тэлефонаў. Каб пераадолець палітычны тупік, лідэры чатырох найбуйнейшых палітычных партый заключылі Пржынскую дамову, якую падпісалі ў чэрвені, дапоўнілі ў ліпені, пасля чаго ў верасні апазіцыя вярнулася ў парламент. Рэагуючы на гэтыя драматычныя падзеі, АГС і грамадзяне разам удзельнічалі ў стыхійных мітынгах.

У Чарнагорыі найбуйнейшы апазіцыйны альянс байкатаваў парламент, абвінавачваючы ў выбарчых фальсіфікацыях і кепскім стане дэмакратыі ў краіне. Пратэсты пад кіраўніцтвам апазіцыі скончыліся жорсткім супрацьстаяннем паміж дэманстрантамі і паліцыяй з параненымі і пашкоджанай маёмасцю. АГС рабілі маніторынг кастрычніцкіх пратэстаў і паведамлялі пра іх у жывым эфіры праз сацыяльныя сеткі. АГС таксама дакументавалі інфармацыю пра выпадкі празмернага ўжывання сілы і забяспечвалі бясплатную юрыдычную дапамогу грамадзянам, якія пацярпелі падчас сутыкненняў з паліцыяй.

Палітычная напружанасць паміж кіроўнай і апазіцыйнымі партыямі ў Косава дасягнула кульмінацыі ў апошнія месяцы года, калі дзясяткі апазіцыйных дэпутатаў былі затрыманыя за тое, што ўжылі слёзатачывы газ падчас парламенцкіх сесій на знак пратэсту супраць урадавых пагадненняў Косава з Сербіяй, якія пашыраюць правы мясцовых сербаў. Народныя пратэсты ў Косава прывялі да жорсткіх сутыкненняў паміж пратэстоўцамі і паліцыяй. Гэтыя і іншыя палітычныя падзеі звузілі прастору для грамадскага актывізму і пакінулі АГС ў 2015 годзе мала магчымасцей для прасоўвання сваіх інтарэсаў ва ўрадзе.

У Босніі зацягнутая перадача ўлады пасля ўсеагульных выбараў у кастрычніку 2014 года мела наступствам роспуск у чэрвені кіроўнай

палітычнай кааліцыі на ўзроўні Федэрацыі, пазбавіўшы ўрад чатырох міністраў. У выніку, на працягу большай часткі года АГС не было да каго апеляваць са сваімі пытаннямі, што негатыўным чынам адбілася на адвакатаванні, а таксама прывяло да затрымкі фінансавання АГС з дзяржаўнага бюджэту.

У Румыніі масавыя пратэсты на пачатку лістапада патрабавалі эфектыўных захадаў па барацьбе з карупцыяй і палітычных рэформ, што прымусіла ўрад пайсці ў адстаўку за год да сканчэння тэрміну паўнамоцтваў. Пасля кансультацый з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці быў сфармаваны тэхнакратычны ўрад, які застанецца ва ўладзе да парламенцкіх выбараў, запланаваных на канец 2016 года. У склад адміністрацыі ўвайшлі некалькі высокапастаўленых чыноўнікаў і дарадцаў з моцным прафесійным досведам у АГС сектары. Новы ўрад таксама заснаваў міністэрства публічных кансультацый і грамадскага дыялогу.

У Малдове пасля парламенцкіх выбараў у лістападзе 2014 года барацьба паміж традыцыйна “пра-еўрапейскімі” партыямі прывяла да прыходу да ўлады чараду няўдалых і праблемных урадаў. Былы прэм'ер-міністр Улад Філат быў арыштаваны ў кастрычніку пасля серыі антыкарупцыйных пратэстаў на чале з Грамадзянскай Платформай. Урад ліберальных дэмакратаў сышоў у адстаўку пасля атрымання вотуму недаверу 29 кастрычніка 2015 года. Пасля амаль трох месяцаў напружаных перамоваў быў сфармаваны новы ўрад, хаця зноў такі былі ўзнятыя пытанні пра ягоную легітымнасць, што прывяло да новай хвалі пратэстаў. У такіх нестабільных палітычных варунках АГС было складана прымаць удзел у працэсах прыняцця рашэнняў. Напрыклад, мандат Нацыянальнай Рады па Ўдзелу – галоўнага органа для кансультацый урада з грамадзянскай супольнасцю ў прыняцці рашэнняў – скончыўся напрыканцы 2014 года, і Рада заставалася неактыўнай цягам 2015 года.

У 2015 годзе многія эканомікі рэгіёну знаходзіліся ў крызісным стане. Шэраг нафтаздабывальных краін былі закранутыя сусветным падзеннем коштаў на нафту. Асабліва складаная сітуацыя склалася ў Расіі. У дадатак да падзення коштаў на нафту краіна сутыкнулася з эканамічнымі санкцыямі, накладзенымі Еўрапейскай Камісіяй і ЗША ў адказ на акупацыю Крыма. У выніку, ВУП знізіўся на 3,7%, у той час як інфляцыя вырасла прыкладна на 12,9%, а кошт рубля рэзка ўпаў. У Беларусі ў 2015 годзе знізіліся экспарт і рэальныя заробкі, у тым ліку

праз эканамічныя праблемы ў Расіі, якая з'яўляецца асноўным гандлёвым партнёрам Беларусі. У Азербайджане падзенне коштаў на нафту прывяло да двухразовай дэвальвацыі нацыянальнай валюты, а таксама паслаблення банкаўскага сектара. У Венгрыі некалькі інвестыцыйных і брокерскіх фірмаў збанкрутавалі адна за адной, што паўплывала на шэраг міністэрстваў і іншых урадавых установаў, якія толькі ў пэўнай ступені здолелі захаваць фонды непасрэдна перад крахам фірмаў. Балгарыя, па дадзеных Еўрастата, застаецца самай беднай дзяржавай Еўрапейскага Звязу – ВУП на душу насельніцтва складае ўсяго 47% ад сярэдняга паказчыка па ЕЗ. Шэраг краін, у тым ліку Албанія і Грузія, заклапочаны беспрацоўем і пашырэннем «шэрага» сектара эканомікі.

Даклады краін *Індэкса ўстойлівасці АГС 2015 года* дазваляюць выявіць некалькі заўважных тэндэнцый. Па-першае, становіцца відавочным, што пераход да дэмакратыі, які здзяйсняецца ў рэгіёне амаль чвэрць стагоддзя – і развіццё грамадзянскай супольнасці як неад'емнай часткі гэтага працэсу, - не з'яўляецца непазбежным ці ўніверсальным. Цягам апошніх год рост сапраўдных дэмакратычных інстытутаў і грамадзянскай прасторы запавольваецца ў Азербайджане, Беларусі і Расіі і паслабляецца ў Венгрыі і Македоніі.

З іншага боку, многія краіны працягваюць свой шлях да сяброўства або асацыяцыі з Еўрапейскім Звязам, што патрабуе развіцця дэмакратычных практык і належнага кіравання. У большасці гэтых краін грамадзянская супольнасць працягвае адыгрываць сваю ролю ў адвакатаванні і маніторынгу ажыццяўлення рэформ.

І, нарэшце, беспрэцэдэнтная хваля ў рэгіён мігрантаў і бежанцаў, у асноўным, з Сірыі і Іраку, уздоўж асноўных транзітных шляхоў і па-за іх межамі, закранула шэраг параметраў устойлівасці АГС, у тым ліку аказанне паслугаў, арганізацыйны патэнцыял, адвакатаванне і грамадскі імідж.

## УХІЛЕННЕ І АДКАТ АД ДЭМАКРАТЫІ

Больш за два дзесяцігоддзі таму, калі абрынуўся Берлінскі мур і распаўся Савецкі Саюз, быў вялікі аптымізм, што дэмакратыя пашырыцца па ўсёй Цэнтральнай і Усходняй Еўропе і Еўразіі. Гэтыя чаканні былі здзейсненыя ў большай частцы рэгіёну. Сёння 11 краін уваходзяць у Еўрапейскі Звяз, які патрабуе ад краін-сябраў мець

стабільныя інстытуты, якія гарантуюць дэмакратыю, вяршэнства закону і правы чалавека, і яшчэ 4 краіны з'яўляюцца кандыдатамі на ўступленне ў ЕЗ. У той жа час дэмакратыя – неад'емнай часткай якой з'яўляецца развіццё незалежнай грамадзянскай супольнасці – размываецца ў краінах, пачынаючы ад Венгрыі (сябра ЕЗ з 2004 года) і Македоніі (кандыдат на ўступленне ў ЕЗ) і да Расіі і Азербайджана, дзе ўстойлівыя дэмакратычныя традыцыі так і не сфармаваліся. Хаця сітуацыя некалькі палепшылася ў 2015 годзе, Беларусь таксама ў значнай ступені супрацiўляецца ўкараненню дэмакратычных інстытутаў.

Найбольшыя пагаршэнні ў 2015 годзе адбыліся ў Расіі і Азербайджане. Абедзве краіны з 2009 года, калі быў ўведзены даклад Freedom House «Пераходныя краіны» (*Nations in Transit*), класіфікаваны як "кансалідаваныя аўтарытарныя рэжымы". У 2015 годзе сітуацыя яшчэ больш абвастрылася з паскораным закрыццём грамадзянскай прасторы ў абедзвюх краінах. У выніку устойлівасць АГС значна пагоршылася. Ключавой часткай стратэгіі абодвух урадаў на зніжэнне ўплыву АГС з'яўляецца прыняцце строгіх законаў, якія абмяжоўваюць доступ АГС да замежнага фінансавання.

У Расіі ў 2015 годзе ўступілі ў дзеянне і шырока выкарыстоўваліся адносна незалежных АГС абмежавальныя законы. Яны не толькі паўплывалі на прававы асяродак, але і мелі негатыўны ўплыў на арганізацыйны патэнцыял, фінансавую ўстойлівасць, адвакатаванне, інфраструктуру і грамадскі імідж. Пасля ўступлення ў дзеянне ў сярэдзіне 2015 года Закону аб непажаданых арганізацыях некалькі замежных арганізацый, у тым ліку такіх донараў, як Нацыянальны фонд за дэмакратыю (NED), Фонд "Адкрытае грамадства", Фонд МакАртураў і Фонд Мота, былі вымушаныя пакінуць краіну або добраахвотна спынілі сваю дзейнасць у Расіі. Гэты закон забараняе дзейнасць "непажаданых" арганізацый у краіне і тым самым змяншае замежнае фінансаванне сектара. Адначасова спіс АГС, якія лічацца замежнымі агентамі – арганізацыі, якія маюць намер атрымліваць замежнае фінансаванне і здзяйсняць "палітычную" дзейнасць у шырокім разуменні, – быў пашыраны, і ціск на арганізацыі з гэтым статусам павялічыўся. У выніку ў 2015 годзе былі ліквідаваны14 арганізацый, а іншыя АГС карэнным чынам згарнулі сваю дзейнасць, бо былі пазбаўленыя замежнага фінансавання. Частка АГС без такога статуса таксама абвясціла аб сваім закрыцці або прыпыненні

дзейнасці. Закон аб замежных агентах і звязаная з ім прапагандысцкая кампанія з боку кантраляваных дзяржавай сродкаў масавай інфармацыі і дзяржаўных установаў павялічыла стыгматызацыю АГС, асабліва тых, хто мае замежнае фінансаванне. Нарэшце, паколькі Міністэрства юстыцыі разглядае ўсялякія кантакты з урадам як палітычную дзейнасць, АГС у значнай ступені скарацілі свае сувязі з дзяржаўнымі ўстановамі, тым самым памяншаючы свае магчымасці абараняць свае правы і інтарэсы.

У 2015 годзе актывізаваўся беспрэцэдэнтны ціск на грамадзянскую супольнасць у Азербайджане, што прывяло да значнага пагаршэння кожнага параметра ўстойлівасці АГС. Цягам года ўрад прыняў шэраг новых правілаў і палажэнняў, якія абмяжоўваюць доступ да фінансавання і ўзмацняюць кантроль над АГС. У выніку замежнае фінансаванне стала практычна недаступнае для АГС. Улічваючы абмежаваныя формы мясцовай падтрымкі, многія АГС зачыніліся або істотна скарацілі сваю дзейнасць. Пастаянны пераслед лідэраў АГС правакуе нават з найбольш вядомых актывістаў кантраляваць свае выказванні, тым самым зводзячы да мінімуму ў 2015 годзе якасць і колькасць адвакатыўных намаганняў.

У Венгрыі з 2010 года, калі Віктар Орбан быў абраны прэм'ер-міністрам у другі раз, грамадзянская прастора значна звузілася. Гэтае звужэнне працягвалася ў 2015 годзе. Пагаршэнне адзначаецца па чатырох параметрах устойлівасці – прававы асяродак, адвакатаванне, інфраструктура і грамадскі імідж. Пастаянны адміністратыўны пераслед і абвінаваўчыя заявы ўрада стварылі атмасферу запалохвання і паставілі сектар пад пагрозу. Паколькі ўрад становіцца ўсё больш закрытым для вонкавых меркаванняў, АГС зразумелі, што традыцыйныя адвакатыўныя намаганні прыносяць мала вынікаў, таму адмовіліся ўдзельнічаць у адкрытых грамадскіх справах. Варожае стаўленне ўрада да грамадзянскай супольнасці перашкаджае міжсектарнаму партнёрству, бо перашкаджае бізнесу супрацоўнічаць з АГС, асабліва па пытаннях, якія могуць успрымацца неадназначна. І нарэшце, АГС маюць складанасці з выказваннем сваіх меркаванняў і пазіцый праз СМІ. У 2014 годзе і дзяржаўныя, і прыватныя пра-дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі цкуюць АГС, якія займаюцца адвакатаваннем альбо маніторынгам, і называюць іх “палітычнымі” ці “замежнымі агентамі”, якія нібыта падрываюць дэмакратычна абраны ўрад. Гэты від рыторыкі быў менш інтэнсіўным у 2015 годзе, аднак

АГС, якія крытыкуюць праграмы ўрада, па-ранейшаму з’яўляюцца аб’ектам дыскрэдытацыі.

Асяродак для АГС Македоніі таксама змяншаўся цягам некалькіх апошніх гадоў, і гэтая тэндэнцыя працягнулася ў 2015 годзе. Паколькі краіна была ўцягнутая ў палітычны крызіс, устойлівасць АГС пагоршылася, што негатыўным чынам адбілася на некалькіх параметрах, у тым ліку грамадскім іміджы і прававым асяродку. Цягам года праўладныя СМІ ўзмацнілі адкрытыя напады, распальванне нянавісці і паклёпніцкія кампаніі супраць крытычна настроеных АГС і актывістаў, пакідаючы мала месца для АГС публічна распавядаць пра сваю дзейнасць. Прававы асяродак пагоршыўся праз частыя змены ў заканадаўстве, якія стварылі няпэўнасць для штодзённай дзейнасці АГС. За адзін дзень у жніўні, напрыклад, без правядзення кансультацый з грамадскасцю парламент унёс папраўкі ў 64 заканадаўчыя акты, некаторыя з якіх ускладнілі працу АГС і павялічылі штрафы за парушэнні.

## АГС І ПРАЕЎРАПЕЙСКІЯ РЭФОРМЫ

У некаторых краінах усё больш абмяжоўваецца грамадзянская прастора і магчымасці АГС удзельнічаць у палітычных рэформах, аднак *Індэкс устойлівасці АГС* сведчыць і пра прыклады, дзе АГС маюць актыўную ролю ў адвакатаванні рэформ, якія спрыяюць развіццю дэмакратычных практык і належнага кіравання, неабходных для ўступлення ў ЕЗ.

Ва Украіне, да прыкладу, грамадзянская супольнасць працягвала ўплываць на праграмы ўрада ў 2015 годзе, штурхаючы парламент і ўрад на правядзенне рэформ у 18 сферах, выкладзеных у Дарожнай мапе рэформ, распрацаваных ініцыятывай “Рэанімацыйны Пакет Рэформ” (РПР) - кааліцыяй грамадскіх актывістаў, экспертаў і журналістаў, якія займаюцца рэформамі ў краіне. Цягам усяго года РПР быў уцягнуты ў распрацоўку 119 законаў, шэсцьдзесят з якіх былі прынятыя парламентам. Гэтыя намаганні дапамагаюць прасоўваць Пагадненне аб асацыяцыі паміж Украінай і ЕЗ, якое было ратыфікаванае ўсімі краінамі ЕЗ у 2015 годзе.

Малдова падпісала Пагадненне аб асацыяцыі з ЕЗ у чэрвені 2014 года. Шлях Малдовы да інтэграцыі быў ускладнены ў 2015 годзе палітычнай нестабільнасцю, эканамічнай няпэўнасцю, а таксама

супярэчнасцямі ў грамадскай думцы – ці павінна Малдова далучыцца палітычна і эканамічна да ЕЗ ці Расіі. У гэтай складанай сітуацыі грамадзянская супольнасць працягвала настойліва прасоўваць праеўрапейскі кірунак развіцця. У кастрычніку АГС Малдовы і ЕЗ стварылі Платформу грамадзянскай супольнасці для маніторынгу за выкананнем Пагаднення аб асацыяцыі з ЕЗ. Пакуль стваралася Платформа, аналітычныя цэнтры праводзілі маніторынг працэсу інтэграцыі ў ЕЗ. Таксама ў 2015 годзе 28 АГС з усёй краіны зладзілі маштабную асветніцкую кампанію па інтэграцыі ў ЕЗ пад назвай Europa Pentru Tine (“Еўропа для Цябе”), падтрыманую USAID і рэалізаваную Family Health International 360 (FHI 360).

У дакладзе па Сербіі (Progress Report 2015) ЕЗ прызнае “больш актыўны ўдзел грамадзянскай супольнасці ў працэсе далучэння.” Сербскія АГС былі ўцягнутыя ў шэраг адвакатыўных і маніторынгавых працэсаў, каб паўплываць на перамовы паміж Сербіяй і ЕЗ па Артыкулу 24 “Справядлівасць, свабода і бяспека” (EU Acquis). Вынікам гэтых намаганняў сталася прыняцце 60% рэкамендацый АГС, у тым ліку датычна гуманітарнага права.

АГС былі ўключаныя ў працу над заяўкай Албаніі на ўступленне ў ЕЗ, напрыклад, шляхам удзелу ў пасяджэннях Нацыянальнай Рады па еўрапейскай інтэграцыі. У Босніі некаторыя АГС імкнуліся павялічыць свой патэнцыял у маніторынгу інтэграцыі ў ЕЗ і ўключыцца ў дыялог па Праграме рэформ з ЕЗ і ўладамі Босніі і Герцагавіны. Акрамя таго, новая нацыянальная стратэгія, якая знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі, прызнае АГС у якасці важных актараў у фармаванні і рэалізацыі палітык ЕЗ. У Грузіі АГС рэалізавалі шэраг праектаў і кампаній, звязаных з будучыняй Грузіі ў ЕЗ.

АГС у краінах ЕЗ працягваюць прасоўваць еўрапейскія праграмы. АГС Латвіі актыўна ўдзельнічалі ў праграме старшынства Латвіі ў ЕЗ у першай палове 2015 года, дзе асаблівая ўвага надавалася пытанням палітыкі суседства Латвіі, бяспекі, а таксама супрацоўніцтву паміж ЕЗ і суседнімі краінамі. У Чэхіі маецца патрабаванне, каб АГС былі прадстаўленыя ў камітэтах па маніторынгу праграмаў ЕЗ, а таксама міністэрствы супрацоўнічаюць з АГС па распрацоўцы, рэалізацыі і маніторынгу такіх праграмаў.

## ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ І МІГРАЦЫЙНЫ КРЫЗІС

У 2015 годзе сур'ёзным пытаннем для ўсёй Еўропы сталася хваля мігрантаў і бежанцаў, у асноўным з Сірыі і Іраку. Многія мігранты і бежанцы трымалі шлях у Заходнюю і Паўночную Еўропу, але міграцыйныя маршруты праходзілі напрамкі праз краіны Балкан і Цэнтральнай Еўропы, у тым ліку Сербію, Македонію, Харватыю, Венгрыю і Славакію. Па інфармацыі Міністэрства ўнутраных справаў Сербіі, у краіне ў 2015 годзе былі зарэгістраваныя 577 995 бежанцаў з Блізкага Усходу, і яшчэ больш чакаецца ў 2016 годзе. Харватыя і Македонія паведамілі пра транзіт у другой палове 2015 года каля 400 000 бежанцаў. Каб кіраваць плынямі бежанцаў, Венгрыя на працягу лета і восені пабудавала агароджу ўздоўж межаў Сербіі і Харватыі.

Плыні ўцекачоў паўплывалі таксама на краіны, якія знаходзяцца па-за асноўнымі транзітнымі маршрутамі. Невялікая колькасць бежанцаў даехалі да балтыйскіх краінаў к канцу года (Эстонія і Латвія), але па гэтым пытанні там ішлі гарачыя грамадскія дыскусіі. Сірыйскія ўцекачы прыбылі таксама ў Арменію: па дадзеных УВКБ Арменіі, па стане на снежань 2015 года, каля 16 000 сірыйска-армянскіх бежанцаў засталіся ў краіне.

Прыток уцекачоў паўплываў на параметры ўстойлівасці АГС, у тым ліку на аказанне паслугаў, арганізацыйны патэнцыял, адвакатаванне і грамадскі імідж.

АГС мелі ключавую ролю ў аказанні паслугаў бежанцам. У Сербіі, напрыклад, урад не ўдзельнічаў у дапамозе да другой паловы года, у выніку чаго на пачатку года АГС былі адзінымі правайдарамі паслугаў для ўцекачоў. У Македоніі АГС штодзённа знаходзіліся на памежных пераходах, каб прапанаваць бежанцам ежу, медычныя паслугі, прадметы першай неабходнасці, а таксама іншыя тавары і паслугі. У Харватыі быў запушчаны сайт welcome.cms.hr, каб даваць навіны з месца падзей і публікаваць карысную інфармацыю для бежанцаў, напрыклад, транспартны расклад і слоўнікі. АГС Арменіі адрэагавалі на прыток сірыйска-армянскіх бежанцаў пашырэннем спектра паслугаў, які ўключыў прафесійную і моўную падрыхтоўку, фінансаванне камерцыйных старт-апаў, а таксама сацыяльную, псіхалагічную, эканамічную і адукацыйную падтрымку.

Нават у тых краінах, дзе чакаецца невялікая колькасць бежанцаў, АГС пачалі распрацоўваць новыя паслугі. Напрыклад, у Латвіі АГС ужо абмеркавалі пытанні каардынацыі паслугаў для ўцекачоў у сферах

дагляду за дзецьмі, юрыдычнага суправаджэння, адукацыі, працоўнай занятасці, навучання мове, сацыяльнай і медычнай дапамогі, а таксама стварылі праграмнае забеспячэнне па кіраванні мапай рэсурсаў, якое дазваляе любой асобе ці арганізацыі даваць інфармацыю пра паслугі, якія яны гатовыя аказваць бежанцам.

На працягу года АГС займаліся публічным адвакатаваннем па пытаннях бежанцаў, часта выступаючы супраць анты-бежанскай палітыкі і рыторыкі. У Венгрыі, напрыклад, урад катэгарычна выступаў супраць планаў ЕЗ увесці абавязковую квоту па размеркаванні бежанцаў паміж краінамі ЕЗ. Урад арганізаваў кампанію супраць гэтых планаў унутры краіны, распальваючы страх і ксенафобію. У адказ АГС арганізавалі шэраг дэманстрацый з патрабаваннем да ўрада ставіцца да мігрантаў гуманна, а не ўспрымаць як крымінальнікаў.

Цягам года АГС Славакіі былі таксама ўцягнутыя ў гучныя грамадскія дэбаты вакол міграцыйнага крызісу. Паколькі дзве траціны грамадзян выказалі нязгоду прымаць бежанцаў, урад абвясціў, што Славакія будзе даваць прытулак толькі тым сірыйскім уцекачам, якія з'яўляюцца хрысціянамі. АГС упэўнены, што такое стаўленне парушае правы чалавека. АГС Славакіі таксама заклікалі прэм'ер-міністра і ўрад падпісаць Еўрапейскую праграму па міграцыі і адкрыць легальныя каналы для бежанцаў. У Эстоніі АГС, якія прапануюць паслугі бежанцам, накіравалі адкрыты ліст прэм'ер-міністру, дзе выказалі незадаволенасць дыялогам па палітыцы ў адносінах да бежанцаў. Да таго ж, у адказ на мову нянавісці супраць бежанцаў рух пад назвай Sõbralik Eesti (“Таварыская Эстонія”) пры падтрымцы прадпрымальнікаў арганізаваў адкрыты канцэрт з выступамі папулярных музыкаў, знакамітасцей і міжнароднай кухняй. У Харватыі ініцыятыва Welcome згуртавала асобных людзей і АГС, каб націснуць на харвацкія і еўрапейскія інстытуты і змяніць іх стрымальную міграцыйную палітыку. АГС Славеніі арганізавалі скаардынаваны дыялог з Міністэрствам унутраных спраў па крызіснай сітуацыі з бежанцамі.

У Чэхіі і Латвіі АГС распрацавалі і здзейснілі адвакатыўныя спробы па прасоўванні комплексных планаў па пытаннях бежанцаў. У Чэхіі кааліцыя АГС стварыла Міграцыйны Маніфест, які прапануе рашэнне асноўных праблем па прыняцці і інтэграцыі бежанцаў. У Латвіі АГС уключыліся ў грамадскую адукацыйную дзейнасць і выдалі

дакумент з 22 пунктаў, якія неабходна прыняць да ўвагі ўстановам, якія распрацоўваюць палітыкі ў гэтай галіне.

Некалькі краінавых дакладаў, у тым ліку Чэхіі, Сербіі і Славеніі, адзначаюць, што АГС сфармавалі больш шчыльныя сувязі з рознымі групамі насельніцтва і палепшылі працу з валанцёрамі для аказання дапамогі бежанцам. Сербскія АГС звярнуліся па фінансаванне для аказання падтрымкі ўцекачам, хаця такая дзейнасць і не з'яўляецца часткай іх праграмнай дзейнасці.

Адказ на дзейнасць АГС па пытаннях міграцыйнага крызісу адрозніваўся па ўсім рэгіёне. У Венгрыі, дзе АГС крытыкуюць праграму ўрада, іх дзейнасць рэгулярна асуджалася, а прэм'ер-міністр абвінаваціў групы нефармальнай дапамогі бежанцам у “падрыве інтарэсаў нацыянальнай дзяржавы”. У Славакіі грамадскасць успрымае спробы АГС змякчыць палярызацыйную рыторыку па міграцыйным крызісе як наіўныя датычна наступстваў прыёму бежанцаў. Рэакцыя ў Славеніі была больш пазітыўнай: удзел АГС па пытаннях крызісу бежанцаў меў станоўчае асвятленне ў СМІ, хоць было таксама і адмоўнае стаўленне з боку часткі грамадскасці. У Латвіі СМІ часта ўзгадваюць АГС у звязку з міграцыйным крызісам, у асноўным у нейтральным рэчышчы. У Сербіі намаганні АГС збольшага не трапілі пад увагу: СМІ ніяк не інфармавалі пра паслугі АГС для бежанцаў, у той час як адпаведныя дзеянні ўрада мелі шырокі розгалас.

## ТЭНДЭНЦЫІ Ў ФАРМІРАВАННІ ЎСТОЙЛІВАСЦІ АГС

Агулам у 2015 годзе ўстойлівасць АГС у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе і Еўразіі развівалася неаднастайна. Колькасць краін, дзе АГС палепшылі свае паказчыкі, прыкладна аднолькавая колькасці краін, дзе ўстойлівасць АГС пагоршылася.

### КРАІНЫ ПАЎНОЧНАЙ ГРУПЫ

Краіны Паўночнай групы (Балтыя і Вышаградская група) працягваюць дэманстраваць самыя высокія паказчыкі ўстойлівасці АГС у Еўропе і Еўразіі, а Эстонія і Польшча фіксуюць самую высокую ўстойлівасць сярод усіх краін, ахопленых выданнямі *Індэкса ўстойлівасці АГС* па ўсім свеце. Агульная ўстойлівасць у Славеніі ў

2015 годзе ўзмацнілася, хаця яна па-ранейшаму мае самы нізкі ўзровень устойлівасці ў Паўночнай групе.




У 2015 годзе палепшылася агульная ўстойлівасць ў Польшчы і Славеніі. У Польшчы істотныя змены былі ўнесеныя ў нарматыўна-прававую базу для АГС, што палегчыла працэс рэгістрацыі арганізацый і ўсталявала выразныя правілы па рэгрантынгу дзяржаўных сродкаў. Адвакатаванне таксама палепшылася, паколькі супрацоўніцтва, кантакты і афіцыйны дыялог паміж АГС і дзяржаўнымі органамі на мясцовым і цэнтральным узроўнях працягвалі ўзмацняцца, і ўсё большая колькасць АГС спрабавалі ўплываць на публічныя палітыкі. У Славеніі адноўленая стабільнасць заканатворчых працэсаў спрыяла актывізацыі адвакатыўных намаганняў, што прывяло ў 2015 годзе да прыняцця розных стратэгій і прававых актаў. Большае прызнанне АГС з боку ўрада прывяло да паляпшэння грамадскага іміджу. Да таго ж, занятасць у сектары павялічылася, і больш АГС сталі разумець важнасць арганізацыйнага развіцця; таксама быў адзначаны невялікі рост у аб'ёмах дзяржаўнага фінансавання і ахвяраванняў.

Латвія і Літва адзначаюць прагрэс прынамсі па двух параметрах устойлівасці, хаця яны не палепшылі агульную ацэнку. У Літве павялічыўся арганізацыйны патэнцыял сектара з асаблівым

прагрэсам у кіраванні; палепшылася адвакатаванне дзякуючы стварэнню Нацыянальнай Рады НДА, якая прадстаўляе сектар у заканатворчых працэсах і лабіяванні. Прагрэс таксама адзначаны ў аказанні паслугаў, паколькі пашырыўся асартымент прадуктаў, якія прапануюць сельскія АГС, і павялічылася прысутнасць АГС у нефармальнай адукацыі. Палепшыўся грамадскі імідж, паколькі АГС дэманстравалі большую празрыстасць, а ўрадавыя чыноўнікі станоўча выказваліся пра АГС. Латвія таксама мела прагрэс у аказанні паслугаў і інфраструктуры, паколькі АГС развілі інавацыйныя інфармацыйна-камунікацыйныя паслугі і новыя паслугі для мігрантаў, стварыўшы нефармальную кааліцыю па пытаннях крызісу бежанцаў. Гэтыя паляпшэнні, аднак, былі часткова нівеляваныя невялікім пагаршэннем прававога асяродку, што выклікана прапановай увесці падатак на прадпрымальніцкую дзейнасць АГС і перыядычным ціскам з боку дзяржаўных службоўцаў.

Хаця, як было адзначана вышэй, гэта не прывяло да зніжэння агульнай устойлівасці, АГС Венгрыі паведамляюць пра рэгрэс па некалькіх параметрах, у тым ліку прававым асяродку, адвакатаванні, інфраструктуры і грамадскім іміджы, паколькі ўрад працягваў абмяжоўваць грамадзянскую прастору і незалежныя галасы.

## КРАІНЫ ПАЎДНЁВАЙ ГРУПЫ

Агульны ўзровень устойлівасці АГС у краінах Паўднёвай групы (Паўднёва-Усходняя Еўропа) працягвае заставацца недзе паміж Паўночнай групай і Еўразіяй. Харватыя і Балгарыя па-ранейшаму маюць самы высокі ўзровень устойлівасці ў рэгіёне, а Сербія і Чарнагорыя – самы нізкі. У цэлым, устойлівасць АГС у краінах Паўднёвай групы ў 2015 годзе застаецца без зменаў. Толькі адна краіна мае змены ва ўстойлівасці – у Македоніі адбылося пагаршэнне, у асноўным праз складаную палітычную сітуацыю, якая абмяжоўвае грамадзянскую прастору.

Хаця гэта і не прыводзіць да змены агульнай устойлівасці, Сербія, Харватыя і Косава паведамляюць пра пагаршэнне прынамсі па двух параметрах устойлівасці. Пасля стабільных паляпшэнняў з 2011 года, даклад па Сербіі фіксуе рэгрэс у прававым асяродку, адвакатаванні, аказанні паслугаў і грамадскім іміджы. Прававы асяродак пагоршыўся, паколькі мясцовыя і нацыянальныя ўлады прама ці ўскосна цкавалі некаторыя АГС, грамадскія ініцыятывы і СМІ, часам

пагражаючы ім судамі і такім чынам папярэджваючы іх пратэсты. Урад прадэманстраваў меншую адкрытасць да адвакатыўных ініцыятываў цягам года. Скарацілася асвятленне дзейнасці АГС у СМІ, збольшага праз уплыў урада на сродкі масавай інфармацыі. Аказанне паслугаў таксама пагоршылася, паколькі меншая колькасць АГС аказвалі паслугі ў сувязі з прывілеяваным становішчам дзяржаўных правайдэраў у працэсе размеркавання дзяржаўных бюджэтаў. У той жа час АГС палепшылі свой арганізацыйны патэнцыял, у асноўным за кошт поспехаў у працы з мэтавымі групамі і прыхільнікамі. Адзнака па фінансавай устойлівасці таксама павялічылася, таму што ўсё больш арганізацый паспяхова прыцягваюць фінансаванне з мясцовых крыніцаў, усё большая колькасць АГС дыверсіфікуе свае бюджэты, а таксама таму, што, на думку экспертаў, мінулагодняя адзнака была штучна заніжаная.




У Харватыі знізілася адзнака па прававым асяродку, у асноўным праз увядзенне новых патрабаванняў да фінансавага кіравання; арганізацыйны патэнцыял пагоршыўся нязначна, паколькі слабыя месцы сектара сталі ўсё больш заўважнымі. У Косава АГС сталі аб’ектам праверкі на адпаведнасць закону, накіраванага на перадухіленне адмывання грошай і тэрарызму, што негатыўна паўплывала на прававы асяродак. Адвакатаванне замарудзілася, паколькі асноўная ўвага ўрада Косава была сфакусаваная на шырокіх

палітычных пытаннях, а байкот апазіцыяй працы парламента прывёў да паўсюдных працэсуальных затрымак.

Албанія і Балгарыя прадэманстравалі паляпшэнне прынамсі па двух параметрах устойлівасці, хаця яны і не змянілі агульную адзнаку. У Балгарыі АГС паведамляюць пра паляпшэнне арганізацыйнага патэнцыялу, адвакатавання і аказання паслугаў, а прававы асяродак нязначна пагоршыўся, паколькі працэс рэгістрацыі ў судах працягваў ускладняцца, а судовае тлумачэнне Закону аб няўрадавых арганізацыях стала больш жорсткім. Албанія адзначыла паляпшэнне ў прававым асяродку і фінансавай устойлівасці. Урад зацвердзіў нацыянальную палітыку, накіраваную на стварэнне спрыяльных умоваў для грамадзянскай супольнасці, і прыняў закон, які рэгламентуе супрацоўніцтва і пастаянны дыялог паміж урадам і АГС праз стварэнне Нацыянальнай Рады па пытаннях грамадзянскай супольнасці. Фінансавая ўстойлівасць палепшылася, паколькі многія донары даюць сваім партнёрам магчымасць рэгрантынгу для больш дробных і нізавых арганізацый.

## КРАІНЫ ЕЎРАЗІІ

Устойлівасць АГС ва Украіне з'яўляецца самай высокай сярод краін Еўразіі, а Беларусь і Азербайджан маюць самую нізкую ўстойлівасць сярод усіх краін, ахопленых у сёлетнім выданні *Індэкса ўстойлівасці АГС*. Агульныя адзнакі ўстойлівасці ў Беларусі і Азербайджане падобныя (5,6 і 5,8 адпаведна), аднак Індэкс гэтага года сведчыць, што яны рухаюцца па розных траекторыях. Нягледзячы на тое, што сітуацыя ў Беларусі застаецца неспрыяльнай, агульная




ўстойлівасць нязначна палепшылася ў 2015 годзе разам са змяншэннем палітычнай напружанасці ў краіне. АГС Беларусі прадэманстравалі больш абгрунтаваны падыход да павышэння свайго арганізацыйнага патэнцыялу, усё часцей шукалі спосабы паўплываць на рашэнні ўрада, а таксама пашырылі спектр паслугаў, зрабіўшы іх больш разнастайнымі і інавацыйнымі. Між тым, сітуацыя ў Азербайджане рэзка абвастрылася, паколькі рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасці ўзмацніліся. АГС Расіі таксама дзейнічалі ва ўсё больш неспрыяльных варунках, што прывяло да значнага пагаршэння амаль усіх параметраў і агульнай устойлівасці расійскіх АГС у 2015 годзе.

Агульная ўстойлівасць крыху палепшылася ў Арменіі, паколькі АГС пашырылі свае паслугі, прадэманстравалі павышэнне здольнасці рэагаваць на патрэбы мэтавых групаў і ўзмацнілі супрацоўніцтва як паміж сабой, так і з бізнес-сектарам. Украіна таксама паведамляе пра паляпшэнне двух параметраў – адвакатавання і грамадскага іміджу,

хаця гэта і не адбілася на павышэнні агульнай адзнакі. Украінская грамадзянская супольнасць працягвала дэманстраваць сваю здольнасць быць праактыўным актарам не толькі ў абароне інтарэсаў насельніцтва, але і ў спрыянні рэформам і ўплыве на праграмы ўрада, што атрымала прызнанне з боку грамадскасці і ўлады.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

*Індэкс 2015 года* дэманструе, што праца па развіцці ўстойлівай дэмакратычнай культуры, у тым ліку развіцці грамадзянскай супольнасці, далёкая ад завяршэння ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Еўразіі, а ўстойлівасць АГС не заўсёды рухаецца лінейна. У некаторых краінах, як Азербайджан, Беларусь і Расія, рост сапраўды дэмакратычных інстытутаў і грамадзянскай прасторы папранейшаму стрымліваецца, а ў іншых краінах, якія раней дамагліся значнага прагрэсу, як Венгрыя і Македонія, дэмакратычныя практыкі на працягу апошніх некалькіх гадоў размываюцца. У чатырох краінах ў 2015 годзе адзначаецца паляпшэнне агульнай устойлівасці АГС, у трох краінах – пагаршэнне. У той жа час, сёлетняе выданне *Індэкса ўстойлівасці АГС* сведчыць, на што здольныя АГС пры наяўнасці спрыяльных умоваў – ад адвакатавання і маніторынгу за рэалізацыяй дэмакратычных рэформ, неабходных для ўступлення ў Еўрапейскі Звяз, да аказання найважнейшых паслугаў сотням тысячаў бежанцаў і мігрантаў.

Краінавыя даклады *Індэкса* даюць глыбокі погляд на сектар АГС у 24 краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Еўразіі. Аналіз сітуацыі за 2015 год выяўляе тэндэнцыі, якія могуць быць карыснымі для АГС, уладаў, донараў і даследчыкаў, зацікаўленых у тым, як развіваецца сэктар арганізацый грамадзянскай супольнасці.




## УСТОЙЛІВАСЦЬ АГС: 5.6 (2014: 5.7)

У 2015 годзе вонкавыя ўмовы для арганізацыяў грамадзянскай супольнасці (АГС) нязначна палепшыліся, але па-ранейшаму мелі абмежавальны характар. Былі вызвалены палітычныя вязні, памяншылася колькасць рэпрэсіўных захадаў супраць АГС і не былі ўвядзеныя новыя абмежаванні для іх дзейнасці. У адрозненне ад папярэдняй прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, прэзідэнцкія выбары ў кастрычніку 2015 года не скончыліся рэпрэсіямі ці палітычным напружаннем. Упершыню АГС не ўдзельнічалі ў выбарчай кампаніі для мабілізацыйнай ці адукацыйнай працы з выбарцамі, што звязана з расчараваннем у магчымасці змяняць сітуацыю ў краіне шляхам выбараў і страхам непазбежных рэпрэсіяў. Праваабарончыя арганізацыі грамадзянскай супольнасці традыцыйна ажыццяўлялі

назіранне за выбарчым працэсам. Адразу пасля выбараў назіраліся адзінкавыя пратэсты, якія не былі жорстка разагнаныя, як гэта было ў 2010 годзе.

Узровень экспарту і заробкі ў знізіліся ў 2015 годзе, у тым ліку праз эканамічныя праблемы ў Расіі, галоўнага гандлёвага партнёра Беларусі. Складаная эканамічная сітуацыя прымусіла ўлады шукаць новыя шляхі прыцягнення інвестыцыяў, уключна замежнага фінансавання праз каналы АГС. Гэта прывяло, з аднаго боку, да з'яўлення новых партнёрств паміж дзяржаўнымі органамі і АГС, а з іншага – да стварэння дзяржавай структур у форме АГС, якія выступаюць заяўнікамі для міжнародных фундацыяў.




Устойлівасць беларускіх АГС па-ранейшаму застаецца слабай. Неспрыяльныя прававыя ўмовы і фінансавая няўстойлівасць з'яўляюцца ключавымі выклікамі для трэцяга сектара. Па астатніх кампанентах назіраецца нязначнае павелічэнне ўстойлівасці, дзякуючы скарачэнню пераследу з боку дзяржавы, паспяховым адвакатыўным кампаніям, з'яўленню краўдфандынгавых онлайн платформаў, рэалізацыі механізма дзяржаўнай сацыяльнай замовы, павышэнню ўзроўню арганізацыйнага развіцця АГС, з'яўленню новых формаў самаарганізацыі грамадзянаў, паляпшэнню іміджу АГС.

Паводле звестак на 1 студзеня 2016 года, у краіне налічваліся 2,665 зарэгістраваных грамадскіх аб'яднанняў, з іх 225 міжнародных, 716 рэспубліканскіх і 1,724 мясцовыя; зарэгістраваныя і пастаўленыя на ўлік 41,011 арганізацыйных структураў грамадскіх аб'яднанняў. У ліку зарэгістраваных таксама 37 прафесійных саюзаў і 23,139 прафсаюзных арганізацыяў; 34 саюзы (асацыяцыі) грамадскіх аб'яднанняў; 164 фонды (15 міжнародных, 5 рэспубліканскіх і 144

мясцовыя) і 7 рэспубліканскіх дзяржаўна-грамадскіх аб’яднанняў. Каля 118 новых АГС былі зарэгістраваны ў 2015 годзе. Напрыканцы года Міністэрства юстыцыі спыніла публікацыю дадзеных па рэгістрацыі юрыдычных асобаў, што ўскладняе аналіз дынамікі рэгістрацыі АГС. Арганізацыі працягвалі рэгістравацца за мяжой ці дзейнічаць без рэгістрацыі праз неспрыяльны прававы асяродак. У 2015 годзе каля 200 беларускіх АГС атрымалі рэгістрацыю ў Літве і Польшчы.

## ПРАВАВЫ АСЯРОДАК: 6.7 (2014: 6.8)

Прававы асяродак для АГС застаецца неспрыяльным. Тым не менш, шмат АГС адаптаваліся да дзейных умоваў і ўспрымаюць адсутнасць палітычнага напружання ў краіне і новых абмежаванняў як нязначнае паляпшэнне.




Міністэрства юстыцыі працягвае практыку адмаўляць у рэгістрацыі пэўным АГС – пераважна моладзевым, праваабарончым і рэлігійным арганізацыям. Часта падставай для адмовы становяцца памылкі ў рэгістрацыйных дакументах, да прыкладу, пазначэнне мабільнага нумара тэлефона замест стацыянарнага ці недастаткова зразумела сфармуляваныя мэты і задачы. Яшчэ адной перашкодай у працэсе рэгістрацыі з’яўляецца патрабаванне мець юрыдычны адрас у памяшканні нежылога фонду, а гэта шмат АГС не могуць сабе дазволіць. У спіс АГС, якім было адмоўлена ў рэгістрацыі ў 2015 годзе, уваходзяць грамадскае аб’яднанне “За справядлівыя выбары”, моладзевая грамадская арганізацыя “Сучасны погляд”, моладзевая

арганізацыя “Новая альтэрнатыва”. Суды ніколі не скасоўваюць рашэнні органаў юстыцыі па адмовах у рэгістрацыі.

Каб пазбегнуць складанасцяў з рэгістрацыяй у форме грамадскага аб’яднання ці фонду, шмат АГС рэгіструюцца як установы – некамерцыйныя арганізацыі, заснавальнікам якіх выступае адна фізічная ці юрыдычная асоба і рэгістрацыя якіх з’яўляецца больш простай. Практыка рэгістрацыі АГС у форме ўстановы можа, аднак, змяншаць ступень унутранай дэмакратыі арганізацыі, справаздачнасці і празрыстасці для сектара, паколькі часта заснавальнік не мае патрэбы ствараць калегіяльныя кіроўныя органы. Гэта таксама скажае інфармацыю па колькасці АГС, паколькі Міністэрства юстыцыі не вядзе статыстыку ўстаноў як АГС.

АГС, якія прыцягваюць замежнае фінансаванне, мусяць яго зарэгістраваць. У 2015 годзе было зменена заканадаўства па замежнай бязвыплатнай дапамозе і міжнароднай тэхнічнай дапамозе з тым, каб палепшыць умовы атрымання сродкаў з-за мяжы.

У жніўні 2015 года быў прыняты Дэкрэт №5 “Аб замежнай бязвыплатнай дапамозе”, які ўступіў у дзеянне з сакавіка 2016 года. Працэс рэгістрацыі замежнай дапамогі застаўся без прынцыповых зменаў, але Дэкрэт удакладніў працэдуру рэгістрацыі і нязначна пашырыў пералік мэтаў, на якія можа выкарыстоўвацца замежная дапамога. Мэты па-ранейшаму ахопліваюць толькі палітычна нейтральныя сферы, якія не з’яўляюцца падазронымі для ўладаў. АГС уносілі свае прапановы на этапе распрацоўкі Дэкрэту, аднак фінальная версія ўключыла толькі адзіную прапанову ад АГС – ананімныя мясцовыя ахвяраванні, атрыманыя беларускімі АГС, цяпер не лічацца замежнай дапамогай.

У ліпені 2015 года была прынятая пастанова Савета Міністраў №590 (уступіла ў дзеянне ў кастрычніку 2015 года), згодна якой ствараецца Каардынацыйная рада па пытаннях міжнароднай тэхнічнай дапамогі з удзелам беларускіх і замежных арганізацыяў, у тым ліку АГС. Рада не была сфармаваная да канца 2015 года, але мае патэнцыял стаць кансультацыйнай пляцоўкай паміж урадам і АГС. Пастанова таксама скарачае тэрмін і спіс дакументаў, неабходных для рэгістрацыі, і ўводзіць прынцып “адно акно” па ўсіх праектах міжнароднай тэхнічнай дапамогі.

Улады прызнаюць неабходнасць узаемадзеяння з грамадзянскай супольнасцю. Праграма дзейнасці Урада Рэспублікі Беларусь на 2015 год уключае такія задачы, як распрацоўка рэкамендацыяў па фармаванні дзяржаўнай сацыяльнай замовы; развіццё моладзевых і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў і іх актыўнае ўцягненне ў распрацоўку і рэалізацыю нацыянальнай моладзевай палітыкі; актывізацыя ролі грамадска-кансультатыўных радаў, куды ўваходзяць прадстаўнікі дзяржавы і АГС, для вызначэння нацыянальных прыярытэтаў і падрыхтоўкі заканадаўчых актаў. Афіцыйны маніторынг ці справаздачнасць па выкананні Праграмы дзейнасці адсутнічае, таму няма дадзеных, якія б дазвалялі меркаваць пра прагрэс у рэалізацыі Праграмы.

У лютым урад ухваліў Нацыянальную стратэгію сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі да 2030 года. Асобную ўвагу Стратэгія надае арганізацыям грамадзянскай супольнасці, у тым ліку, неабходнасці стварэння спрыяльнага прававога асяродку для АГС, удасканалення механізмаў сістэмнай супрацы АГС і дзяржавы, фармавання неабходнай інфраструктуры і механізмаў падтрымкі валанцёрства і грамадскіх ініцыятываў.

У параўнанні з 2014 годам, пераслед АГС з боку ўладаў зменшыўся датычна вобшукаў, затрыманняў, канфіскацыі маёмасці і прыцягнення да крымінальнай адказнасці. Аднак, хаця ў 2015 годзе не былі зафіксаваныя новыя крымінальныя справы супраць сябраў незарэгістраваных АГС, былі зробленыя папярэджанні сябрам некаторых незарэгістраваных рэлігійных аб'яднанняў. Вобшукі і канфіскацыя маёмасці праваабарончых АГС і незалежных СМІ адзначаныя ў Гомелі, Магілёве, Бярозаўцы і Мінску. У лютым з Беларусі была дэпартаваная Старшыня Праўлення Цэнтра прававой трансфармацыі (Lawtrend) Алена Танкачова, што праваабаронцы лічаць палітычна афарбаваным захадам супраць актывісткі-праваабаронцы.

Па-ранейшаму неспрыяльнай застаецца сістэма падаткаабкладання для АГС. Карпаратыўныя спонсары атрымліваюць падатковыя ільготы толькі ў выпадку дабрачынных ахвяраванняў на карысць рэлігійных арганізацыяў, дзяржаўных установаў сферы сацыяльнага абслугоўвання, спартовых арганізацыяў і АГС, назвы якіх пералічаныя ў Падатковым Кодэксе. У снежні 2015 года змены ў Падатковым Кодэксе дазволілі карпаратыўным спонсарам

атрымліваць ільготы на ахвяраванні на карысць яшчэ трох АГС. Пры гэтым спонсары атрымліваюць ільготу максімум у 10% ад агульнага гадавога прыбытку.

Высокакваліфікаваную кансультацыйную прававую дапамогу АГС у вялікіх і малых гарадах Беларусі аказваюць Цэнтр прававых трансфармацый (Lawtrend) і Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў. Да таго ж, яны ладзяць трэнінгі па прававых аспектах дзейнасці АГС, выдаюць метадычныя дапаможнікі, праводзяць онлайн курсы для юрыстаў АГС, дапамагаюць новым АГС у падрыхтоўцы дакументаў для рэгістрацыі і кансультуюць беларускія АГС па пытаннях рэгістрацыі за мяжой. Тым не менш, па-ранейшаму колькасць кваліфікаваных юрыстаў АГС з'яўляеццца недастатковай для таго, каб задаволіць патрэбы ўсіх АГС Беларусі.

## АРГАНІЗАЦЫЙНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ: 4.9 (2014: 5.0)

У 2015 годзе ўзровень арганізацыйнага патэнцыяла ўзняўся. Гэта праявілася, у тым ліку, у больш свядомым падыходзе АГС да выбару мерапрыемстваў па сваім арганізацыйным развіцці.




Цягам года новыя АГС мясцовага і нацыянальнага ўзроўню дэманстравалі відавочны інтарэс да арганізацыйнага развіцця і матывацыю вырасці з ініцыятыўнай групы да зарэгістраванага суб'екта, як, да прыкладу, у выпадку з ініцыятывай "Дзіцячыя экамайстэрні". Разам з тым захоўваецца значны разрыў паміж узроўнем арганізацыйнага патэнцыяла буйных і невялікіх АГС.

Шэраг донарскіх і нацыянальных праграмаў мэтанакіравана падтрымлівалі арганізацыйнае развіццё АГС, да прыкладу, Праграма падтрымкі Беларусі Федэральнага ўрада Германіі, Міжнародны кансорцыум “ЕўраБеларусь” і іншыя. У 2015 годзе праграма “Умацаванне патэнцыялу супольных ініцыятываў”, якая рэалізуецца ўстановай “Новая Еўразія” і падтрымліваецца Агенцыяй ЗША па міжнародным развіцці (USAID), падтрымала 20 АГС, 18 з якіх здолелі зарэгістраваць атрыманую дапамогу і запусціць працэс стратэгічнага планавання.

Шмат АГС уключалі кампанент арганізацыйнага развіцця ў свае праектныя заяўкі. Згодна аналізу сферы арганізацыйнага развіцця, які быў зроблены па замове Асветніцкай установы “Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацый”, да 30% ад агульнага праектнага бюджэту накіроўваецца на мерапрыемствы па арганізацыйным развіцці.

АГС прытрымліваюцца сваіх місіяў. Экалагічныя і іншыя АГС вызначаюць працу з прыхільнікамі ў якасці стратэгічнага прыярытэту, каб атрымаць падтрымку з боку супольнасці і ўзмацніць фінансавую ўстойлівасць. Да прыкладу, Цэнтр экалагічных рашэнняў і Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацый распрацавалі ўнутраныя палітыкі па працы з прыхільнікамі.

Усё больш пашыранай таксама становіцца культура стратэгічнага планавання. У адрозненне ад мінулых гадоў, АГС у рэгіёнах набываюць большую самастойнасць у прыняцці рашэнняў і ініцыююць працэсы стратэгічнага планавання па ўласнай ініцыятыве, а не па патрабаванні донараў.

Усё больш АГС бачаць важнасць стварэння кіроўных органаў, якія б гарантавалі празрыстасць арганізацыі і аб’ектыўную ацэнку яе працы. Рада Беларускай Нацыянальнай платформы Форума грамадзянскай супольнасці Усходняга Партнёрства прайшла праз значныя змены і ініцыявала працэс арганізацыйнага развіцця Платформы, які ўключыў распрацоўку статута, бюджэтнай палітыкі і развіццё дыялогу з вонкавымі стэйкхолдэрамі, у тым ліку беларускімі ўладамі.

У большасці АГС сябры органаў кіравання выконваюць і кіроўныя, і выканаўчыя функцыі. Аднак у 2015 годзе ўсё больш АГС рабілі захады да падзелу абавязкаў паміж кіроўнымі органамі і персаналам. Напрыклад, Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацый

сфармаваў праўленне не з ліку сябраў арганізацыі для падзелу кіроўных і адміністратыўных функцыяў.

У 2015 годзе не праводзіліся даследаванні па вывучэнню сітуацыі з забеспячэннем АГС штатнымі супрацоўнікамі, аднак самі АГС адзначаюць рост зваротаў кваліфікаваных спецыялістаў на вакантныя пазіцыі, што, верагодна, звязана з эканамічным крызісам у краіне. Таксама АГС усё часцей звяртаюцца да дапамогі стажораў, у тым ліку студэнтаў, якія праходзяць стажыроўкі ў АГС як валанцёры. Невялікія і новыя АГС не могуць сабе дазволіць аплочваць персанал, таму часта такая прафесійная дзейнасць робіцца бясплатна.

Згодна Сусветнаму Індэксу дабрачыннасці (World Giving Index) 2015 года, у Беларусі 16% рэспандэнтаў дэкларавалі свой удзел у валанцёрскай дзейнасці ў 2014 годзе, у параўнанні з 33% у 2013 годзе.

АГС часта карыстаюцца паслугамі адмыслоўцаў са староннiх рэсурсных арганізацыяў, да прыкладу, бухгалтараў, IT-спецыялістаў, юрыстаў, кансультантаў па арганізацыйным развіцці і сувязях з грамадскасцю.

Большасць АГС маюць офіснае абсталяванне і актыўна выкарыстоўваюць інфармацыйныя тэхналогіі і сацыяльныя медыі для прасоўвання сваіх місіяў.

## ФІНАНСАВАЯ ЎСТОЙЛІВАСЦЬ: 6.4 (2014: 6.4)

Фінансавая ўстойлівасць не змянілася ў 2015 годзе, нягледзячы на тое, што замежнае фінансаванне для АГС скарачаецца.



Да прыкладу, урад ЗША зменшыў падтрымку Беларусі амаль на 40% - з $9 млн. да $5,5 млн. Гэта ў некаторай ступені кампенсуецца за кошт павелічэння наўпроставага фінансавання беларускіх АГС, што ў тым ліку павышае іх устойлівасць. Замежныя донары імкнуцца падтрымліваць буйныя праекты, што скарачае колькасць АГС, якія маюць доступ да замежных грошай. Да таго ж усё больш прадзяржаўных АГС удзельнічаюць у грантавых конкурсах і потым засвойваюць атрыманыя сродкі супольна з уладамі.

Мясцовая фінансавая падтрымка застаецца абмежаванай, але АГС усё больш пачынаюць шукаць рэсурсы ўнутры краіны – семінары па фандрэйзінгу маюць конкурс пяць чалавек на месца.

Развіваецца інфраструктура крыніцаў мясцовых рэсурсаў – у 2015 годзе працавала краўдфандынгавая платформа Талака і новая платформа Улей, якія дапамагаюць збіраць народныя грошы, а таксама спрыяюць у пошуку чалавечых рэсурсаў і бясплатных паслугаў у распрацоўцы сайтаў, юрыдычных пытаннях, паліграфіі і г.д. За паўгады дзейнасці платформаў больш за 50 праектаў сталіся паспяховымі і сабралі каля $45,000. Дабрачынны аўкцыён сустрэч MaeSens.by у 2015 годзе сабраў каля $230,000 – больш, чым за два папярэднія гады разам. Згодна Сусветнаму Індэксу дабрачыннасці (World Giving Index) 2015 года, у 2014 годзе беларусы сталі больш ахвяраваць на дабрачынныя мэты – 28% у параўнанні з 15% у 2013 годзе.

Мясцовыя органы ўлады працягваюць фінансаваць сацыяльныя паслугі АГС у рамках механізма дзяржаўнай сацыяльнай замовы. У 2015 годзе доля сродкаў, закладзеных у мясцовых бюджэтах на конкурсы сацыяльнай замовы для АГС, павялічылася на 50% у параўнанні з мінулым годам. Аднак агульная сума сродкаў для сацыяльнай замовы застаецца невялікай і не перавышае $100,000 на год.

Згодна апытанню Агенцыі “PRCI.Storytellers” і Фонда “Ідэя”, якое ахапіла 184 беларускіх прадпрыемстваў, у 2015 годзе 61 кампанія рэалізоўвала праекты ў сферы карпаратыўнай сацыяльнай адказнасці (КСА). 73,8% праектаў былі скіраваныя на дапамогу дзецям і дзіцячым установам, 42,6% - на падтрымку спорту і 36% - установ адукацыі. Ва ўмовах эканамічнага крызісу 50% камерцыйных кампаніяў скарацілі свае КСА праекты, 41% захоўваюць ранейшы ўзровень падтрымкі, а 7% нават павялічваюць сваю актыўнасць у сферы КСА.

Адзіны рэгулярны конкурс сацыяльных праектаў “Social Weekend”, які ініцыяваны беларускім бізнесам і ладзіцца двойчы на год, фінансуе праекты на сумы ад $500 да $3,000.

Заканадаўства дазваляе некамерцыйным установам атрымліваць прыбытак ад гаспадарчай дзейнасці, у той час як грамадскія арганізацыі маюць на гэта права толькі пры ўмове стварэння асобных камерцыйных структураў. У 2015 годзе дыскусіі, якія рэгулярна ініцыяваліся АГС для актуалізацыі тэмы сацыяльнага прадпрымальніцтва ў Беларусі, падштурхнулі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны пачаць даследаванне тэмы сацыяльнага прадпрымальніцтва з мэтай вывучэння дзейных практык і механізмаў.

На нізкім узроўні застаецца фінансавы менеджмент АГС. З кастрычніка 2014 года Установа “Новая Еўразія” у межах сваёй праграмы па павышэнні арганізацыйнага патэнцыялу АГС выдаткавала 600 гадзін кансультацый па пытаннях кіравання фінансамі ў АГС. Гэтая ж праграма прапаноўвала гранты на правядзенне незалежнага аўдыту для АГС, але толькі адна арганізацыя скарысталася гэтай магчымасцю.

У Беларусі па-ранейшаму мала спецыялістаў, здольных зрабіць якасны аўдыт некамерцыйнай арганізацыі. У 2015 годзе Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі і Цэнтр прававой трансфармацыі (Lawtrend) у межах праграмы “Грамадскі аўдыт” зладзілі аўдыт для 12 АГС, якія прайшлі праверку ў справаводстве і бухгалтарскім уліку.

## АДВАКАТАВАННЕ: 5.4 (2014: 5.5)

У 2015 годзе ў сферы адвакатавання была адзначаная некаторая станоўчая дынаміка. Сектарны аналіз адвакатавання, праведзены ў 2015 годзе па замове Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый,




засведчыў, што прафесіяналізм і актыўнасць АГС у гэтай сферы павялічваюцца. АГС настойліва шукаюць эфектыўныя шляхі ўплыву на прыняцце рашэнняў замест адкрытай палітычнай канфрантацыі з уладамі, якая амаль не дае станоўчых вынікаў. Аднак па-ранейшаму мала АГС, якія спецыялізуюцца ў адвакатаванні, а міжнародная падтрымка кампаніяў адвакатавання даволі абмежаваная.

Цягам года пашыраліся стасункі паміж АГС і тымі, хто прымае рашэнні, у тым ліку дзякуючы агульнаму паслабленню напружанасці паміж уладамі і АГС. У Браслаўскім і Бярозаўскім раёнах створаны супольныя Грамадскія рады па распрацоўцы Стратэгіяў устойлівага развіцця. Па рашэнні Гомельскага аблвыканкаму, створана працоўная група з 14 прадстаўнікоў улады і АГС па пытаннях ранняй рэабілітацыі інвалідаў з траўмамі хрыбетніка. У Віцебску сфармаваная сетка адукацыйных дзяржаўных і недзяржаўных арганізацыяў. Нацыянальная рада па гендарнай палітыцы кансультуецца з АГС па пытаннях забеспячэння гендарнай роўнасці ў краіне.

Эканамічная палітыка застаецца сферай для міжсектарнага супрацоўніцтва. Урад уцягвае бізнес асацыяцыі ў падрыхтоўку рэкамендацыяў для стратэгічных дакументаў і заканадаўчых актаў. Адну трэціну новай грамадска-кансультатыўнай Рады па развіцці прадпрымальніцтва пры Міністэрстве эканомікі складаюць прадстаўнікі камерцыйных кампаніяў і бізнес асацыяцыяў. Паслугі незалежных аналітычных цэнтраў маюць попыт у розных сектарах, а іх даследаванні служаць інструментам прасоўвання рэформаў у краіне. У 2015 годзе АГС і аналітычныя цэнтры ў партнёрстве з дзяржавай

арганізавалі такія буйныя эканамічныя і палітычныя канферэнцыі, як Кастрычніцкі Эканамічны Форум і Мінскі Дыялог.

АГС працавалі разам з уладамі па шэрагу буйных праектаў. Міністэрства ўнутраных спраў звярталася па каментары да АГС датычна закона аб супрацьдзеянні хатняму гвалту, які на выніку быў заблакаваны пракуратурай, паколькі некаторыя пункты дублявалі дзейнае заканадаўства. АГС таксама працавалі з некаторымі міністэрствамі па спрашчэнні заканадаўства ў пытаннях рэгістрацыі міжнароднай тэхнічнай дапамогі.

АГС не часта ўступаюць у кааліцыі з іншымі арганізацыямі, калі адвакатаванне звязана з палітычнымі пытаннямі. Разам з тым, у 2015 годзе пяць жаночых арганізацыяў аб’ядналіся ў кааліцыю для прасоўвання заканадаўства ў сферы хатняга гвалту. Установа “Цэнтр экалагічных рашэнняў”, ГА “Беларускае таварыства аховы спажыўцоў” і міжнароднае ГА “Экапраект Партнёрства” сумесна адвакатавалі змены ў заканадаўстве па хімічнай бяспецы спажывецкіх тавараў.

Прафсаюзы працягвалі абараняць правы працоўных. У 2015 годзе Беларускі Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў дамогся падпісання Генеральнага пагаднення паміж урадам, аб’яднаннямі наймальнікаў і прафсаюзамі, такім чынам засведчыўшы легітымнасць незалежных прафсаюзаў у Беларусі.

Разам з тым, часта дзяржава запрашае АГС да абмеркавання нарматыўных дакументаў чыста фармальна. 22 арганізацыі накіравалі свае каментары да праекту Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2030 года, аднак ніводная прапанова не была ўлічаная ў фінальным тэксце. У адрозненне ад першага цыклу Універсальнага перыядычнага агляду (УПА) у 2010 годзе, да абмеркавання нацыянальнай справаздачы другога цыклу УПА Міністэрства замежных спраў запрасіла экспертаў толькі зарэгістраваных праваабарончых арганізацыяў. Адпаведна ў рамках працэдуры УПА беларускія АГС падрыхтавалі альтэрнатыўную справаздачу па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

У 2015 годзе адразу некалькі адвакатыўных кампаніяў скончыліся паспяхова. Сярод іх – кампанія ГА “Багна”, якая здолела захаваць балоты, першапачаткова аддадзеныя пад торфаздабычу; працяглая кампанія Офісу па правах людзей з інваліднасцю, Рэспубліканскай асацыяцыі інвалідаў-вазочнікаў, Беларускага таварыства інвалідаў і

іншых арганізацыяў скончылася тым, што Беларусь падпісала Канвенцыю аб правах людзей з інваліднасцю; Асацыяцыя бізнес адукацыі і Асацыяцыя развіцця менеджменту дамагліся прыняцця Канцэпцыі развіцця бізнес адукацыі ў Беларусі.

Шэраг АГС паслядоўна прасоўваюць рэформы для паляпшэння прававога асяродку для трэцяга сектара. У траўні 2015 года ў Вільнюсе адбыўся першы Беларускі форум некамерцыйнага права. Каля 100 юрыстаў з беларускіх АГС і міжнародныя эксперты абмеркавалі найбольш важныя пытанні датычна свабоды асацыяцыяў у Беларусі і магчымасцях для рэформаў у краіне. Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі і Цэнтр прававых трансфармацый (Lawtrend) пачалі ствараць мапу рэформаў па развіцці свабоды асацыяцыяў. Міжнароднае асветніцкае грамадскае аб'яднанне "АКТ" супольна з іншымі АГС прасоўвае законапраект "Аб грамадска карыснай дзейнасці".

## АКАЗАННЕ ПАСЛУГАЎ: 5.2 (2014: 5.3)




АГС аказваюць шырокі спектр паслугаў у галіне адукацыі, аховы здароўя, экалогіі, сацыяльнай абароны, культуры і адпачынку, спорту і турызму. Формы і метады аказання паслугаў становяцца ўсё больш разнастайнымі і інавацыйнымі. Цэнтр экалагічных рашэнняў актыўна развівае анлайн-праекты і дыстанцыйнае навучанне па экалагічнай тэматыцы. Адукацыйны інтэрнэт-партал па вывучэнні беларускай мовы Movananova.by наведваюць да 100 000 карыстальнікаў штомесяц.

АГС плануюць свае праграмы і стратэгіі з арыентацыяй на патрэбы кліентаў і грамадскасці. Да прыкладу, ГА "Інваліды-

спінальнікі” стварылі інфармацыйныя матэрыялы для кіроўцаў грамадскага транспарту і адміністратараў грамадскіх установаў з пакрокавым апісаннем, як узаемадзейнічаць з інвалідамі-вазочнікамі. Офіс па правах людзей з інваліднасцю і Беларускі прафсаюз працоўных радыёэлектроннай прамысловасці выдалі дапаможнік “Прафсаюзы і інваліднасць: першыя крокі”, які падсумоўвае шматгадовы досвед абароны правоў людзей, якія атрымалі інваліднасць на вытворчасці. Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Экапартнёрства” распрацавала дзіцячую гульню для планшэтаў і мабільных тэлефонаў, якая вучыць слушна сартаваць выкіды, захоўваць чыстую ваду і ашчаджаць электраэнергію.

У аказанні паслугаў АГС выходзяць за рамкі базавых сацыяльных патрэбаў сваіх кліентаў і працуюць для супольнасцяў і іншых арганізацыяў. Да прыкладу, платформа “Ideaby” дапамагае ствараць інфаграфіку іншым АГС, каб зрабіць іх даследаванні больш зразумелымі і даступнымі.

АГС, зарэгістраваныя ў форме ўстановаў, маюць права пакрываць выдаткі за кошт кліентаў, і ўсё большая колькасць АГС пачынае карыстацца гэтай магчымасцю. Да прыкладу, некамерцыйная ўстанова “Офіс прасоўвання ініцыятываў” рэгулярна праводзіць трэнінгі для моладзі за кошт удзельнікаў. АГС, зарэгістраваныя ў іншых краінах, таксама маюць права на атрыманне прыбытку, калі гэта дазволена заканадаўствам краіны рэгістрацыі. Некамерцыйная арганізацыя Case Belarus, зарэгістраваная ў Польшчы, пакрывае 15% гадавога бюджэту за кошт кансультавання прыватных кліентаў.

Дзяржава прызнае ўнёсак АГС у аказанне сацыяльных паслугаў і іх маніторынг, што выяўляецца сярод іншага ў перайманні гэтых паслугаў дзяржаўнымі сацыяльнымі ўстановамі. Да прыкладу, на падставе практычнага досведу грамадскай дабрачыннай арганізацыі “Беларускі дзіцячы хоспіс” паслугі паліятыўнага дагляду за дзецьмі-інвалідамі пачалі ўкараняць медычныя ўстановы ў Бабруйску і Магілёве.

Міжнароднае асветніцкае грамадскае аб’яднанне “АКТ”, Асацыяцыя некамерцыйных арганізацыяў па супрацьдзеянні эпідэміі ВІЧ/СНІД “Белсетка антыСНІД” і Беларускае грамадскае аб’яднанне “Пазітыўны рух” актыўна прасоўваюць механізм дзяржаўнай сацыяльнай замовы ў сферы аховы здароўя і прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі. Сацыяльная замова па-ранейшаму рэалізуецца толькі ў

сферы працы і сацыяльнай абароны, аднак, пасля ўвядзення гэтага механізму ў 2013 годзе Законам “Аб сацыяльным абслугоўванні”, пашыраецца геаграфія і практыка яго выкарыстання. У 2015 годзе было падпісана 46 кантрактаў з васьмю АГС на аказанне паслугаў і рэалізацыю праектаў – на 13 кантрактаў болей, чым у 2014 годзе.

## ІНФРАСТРУКТУРА: 5.2 (2014: 5.2)

Буйныя нацыянальныя і рэгіянальныя арганізацыі працягваюць аказваць юрыдычную, трэнінгавую, кансультацыйную і інфармацыйную дапамогу іншым АГС. Сярод такіх арганізацыяў падтрымкі – Цэнтр прававых трансфармацый (Lawtrend), Міжнароднае асветніцкае грамадскае аб’яднанне “АКТ”, Асветніцкая ўстанова “Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацый” (усе базуюцца ў Мінску), а таксама Гомельскае абласное грамадскае аб’яднанне “Сацыяльныя праекты” (Гомель), Цэнтр інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятываў “Трэці сектар” (Гродна). Паслугі гэтых арганізацыяў карыстаюцца вялікім попытам, аднак яны не могуць задаволіць патрэбы ў межах усёй краіны. У 2015 годзе ў Мінску адчыніўся Цэнтр міжнароднай тэхнічнай дапамогі Еўрапейскага Звязу (Цэнтр МТД ЕЗ) для інфармавання рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў, арганізацыяў і грамадскіх аб’яднанняў пра праграмы міжнароднай тэхнічнай дапамогі ЕЗ.




Некаторыя беларускія арганізацыі займаюцца рэгрантынгам замежных сродкаў. У 2015 годзе Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Узаемаразуменне” арганізавала восьмы конкурс праектаў, якія фінансуецца нямецкім Федэральным фондам “Памяць, адказнасць і будучыня”. У папярэдніх сямі конкурсах у Беларусі было падтрымана

103 праекты на агульную суму больш за €2.3 млн. Міжнародны кансорцыум “ЕўраБеларусь” супольна з Асацыяцыяй агенцыяў лакальнай дэмакратыі ALDA у рамках праграмы “CHOICE: Культурная спадчына – Магчымасць для грамадзянскага ўдзелу”, якая фінансуецца Еўрапейскай Камісіяй, на конкурснай аснове размяркоўваюць гранты сярод мясцовых культурніцкіх арганізацыяў на агульную суму €500,000. Напрыканцы года на праграму былі пададзены 60 праектных заявак. У 2015 годзе ўстанова “Новая Еўразія” правяла арганізацыйную дыягностыку 25 АГС і са сродкаў USAID падтрымала 18 праектаў, скіраваных на ўмацаванне арганізацыйнага патэнцыялу.

Ролю рэсурсных цэнтраў для сваіх арганізацыяў-сябраў выконваюць сеткавыя і парасонавыя арганізацыі, сярод якіх – таварыства “Зялёная сетка”, Асацыяцыя дадатковай адукацыі і асветы, Беларуская даследчая Рада, Беларуская нацыянальная моладзевая РАДА, Беларускі Дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава і Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі. Гэтыя арганізацыі ладзяць для сваіх сябраў навучанне і рэгулярны інфармацыйны абмен, робяць спробы ўзгаднення стандартаў якасці аказання паслугаў, а таксама робяць рэгрантынг замежных сродкаў. У 2015 годзе 14 АГС сфармавалі рэгіянальную партнёрскую сетку сацыяльных АГС Гомельшчыны з мэтай павялічыць свой прафесіяналізм у сферы аказання сацыяльных паслугаў насельніцтву.

Беларускія трэнеры і кансультанты намагаюцца задаволіць патрэбы АГС, хаця частка арганізацыяў не можа дазволіць сабе іх паслугі. Мясцовыя трэнеры здольныя на прафесійным узроўні праводзіць базавае навучанне ў сферы менеджменту, кіравання чалавечымі рэсурсамі, адвакатавання і фандрэйзінгу. З АГС таксама працуюць бізнес-кансультанты ў такіх сферах, як кіраванне чалавечымі рэсурсамі і маркетынг. У 2015 годзе, пасля чатырох год дзейнасці, Біржа арганізацыйнага развіцця спыніла выдачу ваўчараў на трэнінгі і кансультацыі для АГС, але сайт Біржы працягвае служыць інфармацыйным рэсурсам па арганізацыйным развіцці.

У 2015 годзе назіралася тэндэнцыя на ўзмацненне міжсектарнага ўзаемадзеяння. Узаемны інтарэс розных сектараў стымулюецца донарамі, а таксама абумоўлены эканамічным крызісам. Дзяржава выкарыстоўвае АГС для выхаду на міжнародныя крыніцы фінансавання, ствараючы ў тым ліку для гэтага свае некамерцыйныя

арганізацыі. Партнёрства сектараў з'яўляецца абавязковай умовай для некаторых конкурсаў праектаў. Так, конкурс мясцовых ініцыятываў у рамках праекту ЕЗ/ПРААН "Спрыянне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь" меў умовай міжсектарную супрацу і сабраў больш за 700 партнёрскіх заявак.

## ГРАМАДСКІ ІМІДЖ: 5.7 (2014: 5.8)

Грамадскі імідж беларускіх АГС палепшыўся ў 2015 годзе.

У 2015 годзе з'явіўся новы рэсурс для інфармавання пра дзейнасць АГС – Агенцыя сацыяльных навінаў, аналітыкі і камунікацыі SocNews.by. Сайт размяшчае інфармацыю пра дзейнасць АГС, новыя ініцыятывы, гранты і конкурсы, магчымасці навучання ў Беларусі і за мяжой.




Рэгіянальныя СМІ публікуюць даволі шмат станоўчых гісторый пра дзейнасць АГС. Колькасць публікацый пра гарадскі актывізм і культурніцкія ініцыятывы няўхільна павялічваецца, хаця паранейшаму журналісты дзяржаўных медыяў часта не ўзгадваюць назвы АГС у сваіх рэпартажах. Дзяржаўныя СМІ толькі зрэдку асвятляюць дзейнасць АГС і пераважна толькі ў сацыяльнай, дабрачыннай ці экалагічнай сферах. Некаторыя матэрыялы дзяржаўных выданняў пра АГС бываюць палітызаванымі, што часткова звязана з прапагандай вакол канфлікту ва Украіне і меркаваннем, што менавіта грамадзянская супольнасць распачынае такія канфлікты. У той жа час прадстаўнікі АГС усё часцей

запрашаюцца ў якасці экспертаў ці гасцей на тэлевізійныя ток-шоу, асабліва ў рэгіёнах.

Папулярныя сайты TUT.by і Onliner.by, якія маюць да 1 млн. наведвальнікаў на дзень, у партнёрстве з АГС ствараюць відэа і іншыя праграмы, якія спрыяюць дасведчанасці насельніцтва пра ключавыя сацыяльныя пытанні. Да прыкладу, TUT.by супольна з Офісам еўрапейскай экспертызы і камунікацый арганізуюць і транслююць анлайн-серыю дыскусіяў "Што думаюць беларусы?" Onliner.by і некамерцыйная краўдсорсінгавая платформа Talaka.by зладзілі ў Мінску летні рэаліці-конкурс гарадскіх праектаў #РазамМінск.

Згодна нацыянальнаму апытанню, якое было праведзенае ў верасні 2015 года Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД), 49,3% беларусаў ведаюць пра АГС, у параўнанні з 52,1% у 2014 годзе і 30,3% у 2013 годзе. Прыкладна траціна рэспандэнтаў (32,2%) давяраюць АГС, у параўнанні з 37,7% у 2014 годзе і 32,8% у 2013 годзе. У той жа час, узровень уцягнутасці грамадзянаў у грамадскую дзейнасць паступова павялічваецца – у 2015 годзе гэты паказальнік дасягнуў 21%, у параўнанні з 17% у 2013 і 2014 гг. Краўдфандынгавыя платформы, буйныя інфармацыйныя кампаніі і імпрэзы, такія як Дзень Вышыванкі і Дзень беларускай стужкі, робяць АГС больш заўважнымі.

АГС становяцца больш праактыўнымі і прафесійнымі ў фармаванні ўласнага іміджу. Згодна Індэксу ўстойлівасці СМІ (Media Sustainability Index) 2015 года, каля 64% беларусаў аддаюць перавагу ў атрыманні інфармацыі інтэрнэт-медыя і сацыяльным сеткам. Адпаведна АГС пачынаюць усё больш выкарыстоўваць сайты, электронныя рассылкі і сацыяльныя медыі для працы з грамадскасцю. АГС імкнуцца мець у сваім штаце менеджараў па камунікацыі і прэс-сакратароў.

Хаця напружанне паміж дзяржавай і АГС у некаторай ступені цягам года знізілася, па-ранейшаму ўлады ставяцца нейтральна да сацыяльных АГС, але негатыўна да арганізацыяў, якія працуюць у сферы абароны правоў чалавека, развіцця грамадзянскай супольнасці і адвакатавання.

Павышэнне ўвагі камерцыйных кампаніяў, СМІ і грамадскасці да карпаратыўнай сацыяльнай адказнасці сталася прычынай росту зацікаўленасці бізнесу ў партнёрстве з АГС. Супольная кампанія

Беларускага дзіцячага хоспісу і мабільнага аператара Velcom “Пабудуем новы хоспіс разам!” прыцягнула шмат увагі, ахапіла тысячы людзей і адпаведна здолела сабраць неабходныя грошы для будаўніцтва.

АГС па-ранейшаму дэманструюць абмежаваны ўзровень празрыстасці. Нешматлікія АГС маюць этычны кодэкс. Буйныя АГС публікуюць падрабязныя штогадовыя справаздачы пра сваю дзейнасць, і колькасць такіх АГС паступова павялічваецца. Аднак толькі адзінкавыя АГС даюць поўную фінансавую справаздачу, і большасць АГС не імкнуцца зрабіць свае справаздачы даступнымі для шырокай аўдыторыі.

# МІЖНАРОДНАЯ АСВЕТНІЦКАЕ ГРАМАДСКАЯ АБ'ЯДНАННЕ "АКТ"

Міжнароднае асветніцкае грамадскае аб'яднанне «АКТ» (МАГА «АКТ») зарэгістраванае ў Беларусі ў лістападзе 2002 года.

«АКТ» – гэта супольнасць трэнераў, кансультантаў і экспертаў, якія дзейнічаюць на карысць грамадзянскай супольнасці. Мы зацікаўленыя ў развіцці некамерцыйных арганізацый і мясцовых супольнасцей і для гэтага:

- Прасоўваем інтарэсы арганізацый грамадзянскай супольнасці (АГС) і змяняем заканадаўства для стварэння больш спрыяльнага асяродку для іх дзейнасці;
- Навучаем і кансультуем некамерцыйныя арганізацыі па розных аспектах, у тым ліку праграмным і арганізацыйным развіцці; пашыраем паспяховыя практыкі дзейнасці АГС;
- Дапамагаем у наладжванні супрацоўніцтва паміж трэцім сектарам і дзяржавай;
- Праводзім даследаванні, маніторынг і ацэнку праграм, праектаў і арганізацый.

Мы працуем дзеля людзей, якія дзейнічаюць у грамадскіх інтарэсах, і кансалідуем намаганні грамадзян дзеля пазітыўных зменаў у грамадстве.

## НАШЫ КАНТАКТЫ:

г.Мінск пр-т Машэрава, 25-335
тэлефон/факс +375 17 334-39-13
actngo.info@gmail.com
www.actngo.info

АКТ Международное просветительское общественное объединение

*Індэкс устойлівасці арганізацый грамадзянскай супольнасці (АГСІУ) з'яўляецца ключавым інструментам вымярэння прагрэсу грамадскага сектара ў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе і Еўразіі (Е&Е рэгіён). Індэкс адсочвае прагрэс грамадскага сектара ў 29 краінах цягам апошніх 19 год. Індэкс вывучае агулам варункі, якія спрыяюць развіццю грамадзянскай супольнасці, з фокусам на прававы асяродак для дзейнасці няўрадавых арганізацый, арганізацыйнае развіццё, фінансавую ўстойлівасць, адвакатаванне, аказанне паслугаў, інфраструктуру і грамадскі імідж. Кожнае вымярэнне рэйтынгуецца паводле сямібальнай шкалы, дзе 1 паказвае на вельмі прагрэсіўны ўзровень, а 7 – на нізкі ўзровень развіцця. Індэкс распрацаваны Агенцтвам ЗША па міжнародным развіцці ў партнёрстве з мясцовымі арганізацыямі ў кожнай з тых краін, дзе вымяраецца Індэкс.*

*Для атрымання падрабязнай інфармацыі, калі ласка, звяртайцеся ў Міжнароднае асветніцкае грамадскае аб'яднанне "АКТ", actngo.info@gmail.com.*

*Англійская версія Індэкса ўстойлівасці арганізацый грамадзянскай супольнасці - 2015 для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Еўразіі даступная для азнаямлення па спасылцы: http://www.usaid.gov/europe-eurasia-civil-society.*

